# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №10 (120)
ЛІПЕНЬ 2012 ГОДА


**“Покліч волі” ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# ЗРАЗУМЕЦЬ УСЁ ГЭТА МАГЧЫМА, АЛЕ ЯК ГЭТА МОЖНА ПРЫНЯЦЬ?

**Як паведамілі незалежныя СМІ, 4 ліпеня паветраную прастору Беларусі парушыў лёгкаматорны шведскі самалёт, з якога над Івянцом і ўскраінай Менску скінулі плюшавых мядзведзікаў з надпісамі ў падтрымку свабоды слова ў Беларусі. Улады тры тыдні афіцыйна не прызнавалі наяўнасць такога факта, а КДБ затрымаў журналіста Антона Сурапіна і рыэлтара Сяргея Башарымава, якому ўжо выставілі абвінавачванне ў спрыянні незаконнаму перасячэнню мяжы групай асобаў.**



Арганізатар «плюшавага дэсанту» швед Пэр Кромвэл

Дзіўныя рэчы творацца у цэнтры Еўропы ў 21-м стагоддзі: затрымліваюць, дапытваюць і выстаўляюць абвінавачванні не тым, хто парушыў паветраную прастору краіны, не тым, хто прамаргаў парушальнікаў, а тым хто паведаміў пра падзею і змясціў фотаздымкі ў інтэрнэце, то бок выканаў сваё прафесійныя абавязкі.

Рыэлтара ж і наогул зняволілі толькі за тое, што ў траўні ён сустракаўся з арганізатарам акцыі, шведам Пэрам Кромвелем, які тады зрабіў заказ на жытло, ад якога, праўда, у далейшым і адмовіўся. Раз сустракаўся–значыць датычны да змовы! Жалезная логіка. Пастаўце сябе на месца замежніка: вы плануеце нешта таемнае ў чужой краіне і, канечне, вы абавязкова паведаміце пра гэта хлопцу з дзяржавы, закон якой вам прыйдзецца хоцьма-няхоцьма парушыць, бо вы ж мяркуеце скарыстацца ягонай гасціннасцю. І гэта логіка прыпісваецца грамадзяніну краіны, дзе законапаслухмяныя шведы абавязкова паведамляюць у паліцыю пра любыя падазроныя рэчы. Не, калі ўжо робіцца нешта супрацьзаконнае і ёсць спадзяванне на станоўчы вынік, то ведаць пра абставіны справы могуць толькі ўдзельнікі злачынства, і то лепей, каб не ўсе. Такая яна логіка на ўсе часы і іншай быць не можа.

Дарэчы, і швед Пэр Кромвел, які 4 ліпеня назіраў за самалётам з зямлі ў Івянцы, адмаўляе ўдзел Сяргея Башарымава ў дапамозе ўдзельнікам акцыі, які толькі здаваў кватэру і даслаў фармальнае запрашэнне, што з’яўляецца стандартнай працэдурай для тых, хто збіраецца арандаваць кватэру. Тыдзень таму Пэр Кромвел звярнуўся да Аляксандра Лукашэнкі з адкрытым лістом, у якім паабяцаў прыехаць у Беларусь, калі Лукашэнка дасць яму гарантыі бяспекі, і распавесці пра тое, як пілоту ўдалося абмінуць сродкі беларускай СПА. Адказу на сваю прапанову ён так і не атрымаў. Ды і атрымаць не мог, бо галоўнае для сённяшняй улады не нейкая там праўда і выпраўленне ўласных памылак, а далейшая эскалацыя псіхозу і запалохвання насельніцтва перад магчымасцю народнага абурэння, выкліканага пагаршэннем эканамічнага стану насельніцтва.

Але ж мяне, па вялікім рахунку, турбуе не толькі ўсё вышэй пералічанае. Мяне турбуе, што за часамі Лукашэнкі Беларусь стала ўспрымаецца ў цывілізаваным свеце, як краіна ізгой, краіна, дзе парушаюцца палітычныя і грамадзянскія правы, дзе просты чалавек не мае ніякіх механізмаў уплыву на ўладу. Узровень свабоды тутэйшага грамадства нагадвае той, што быў за Сталінам з папраўкай на час і знешнюю інтэграванасць у сусветныя палітычна-эканамічныя працэсы. А вось механізмы знішчэння “ворагаў народа” сталі куды больш вытанчанымі, але ад гэта не менш цынічнымі. Калі за Сталінам падпасці пад рэпрэсіі мог практычна любы( дастаткова было банальнага даносу), то зараз толькі той, хто апазіцыянуе ( супрацьпастаўляе, супрэчыць) уладзе, то бок прапануе іншыя шляхі вырашэння наспелых пытанняў. Найперш гэта сябры палітычных партый і грамадскіх арганізацый, журналісты недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, незалежныя прафсаюзы, студэнты, якія наважыліся вучыцца ва універсітэтах еўрапейскіх краінаў, якія ва ўмовах “апошняй еўрапейскай дыктатуры” даюць стыпендыю для беларускіх маладзёнаў, каб далучыць хлопцаў і дзяўчат да агульнаеўрапейскіх каштоўнасцяў. Але апошнім часам у іхнія шэрагі трапляюць і маўклівыя пратэстанты, і языкатыя блогеры, і простыя працоўныя людзі, якія не згаджаецца працаваць за мізэрныя грошы ды наважваецца патрабаваць прыстойнай аплаты за сваю працу.

Аднак самае прыкрае заключаецца ў тым, што маўклівай абыякавай большыні дастаткова таго, што ёсць. Я маю на ўвазе не столькі нейкі матэрыяльны мінімум. А гавару пра існы стан абыходжання з імі ўлады, на які яны пагаджаюцца. Іх задавальняе, што ім ні за што не прыходзіцца адказваць. Ні за тое, што тысячы бязвінных людзей праз сваё перакананні прайшлі праз турмы ці эміграваль, ні за тое, што ў нас каторы год няма празрыстых і вартых даверу выбараў, ні за тое, што ў парламент трапляюць падобныя, як блізнюкі, дэпутаты, ні за тое што краіна загразла ў саўковым убостве, а моладзь замбуецца і гадуецца падобнай да паслухмяных клонаў, ні за тое, што без жыццёвай разнастайнасці мемагчымы рух наперад. А між іншым гэта яны пабудавалі тут рэжым абсалютнай улады і наканавалі сваім дзецям быць парабкамі ў суседняй Расеі.

Зразумець усё гэта магчыма, але як гэта можна прыняць? Як можна прыняць тое, што грамадзянам уласнай краіны няма справы да лёсў сваіх суграмадзянаў, якія змагаюцца за іхнія палітычныя і грамадзянскія правы?

Выходзіць, шведам, якія прылятали сюды з мядзведзікамі ёсць справа да правоў і свабодаў беларусаў, а тутэйшаму насельніцтву гэтыя правы і свабоды непатрэбныя?

У гэтым рэчышчы цікава б было даведацца, што думае тутэйшы просты чалавек з тае нагоды, што ягонага прэзідэнта ўлады Англіі не пусцілі на Алімпіяду ў Лондан? Чыёй віны ў гэтым болей Лукашэнкавай ці тых грамадзянаў, якія згаджаюцца на пабудаваны тут за ім лад жыцця і ўзаімадачыненняў паміж уладай і грамадзянамі?

**Рэдактар.**

ПАЛІТЫКА

# «Прашу вызваліць мяне»

**З палітвязнем віцьбічам Сяргеем Каваленкам ў Магілёўскай калоніі сустрэліся бацька Аляксандр і брат Віталь. Бачыліся яны са зняволеным адны суткі.**

Як паведаміў Аляксандр Каваленка «Радыё Свабода», статут злоснага парушальніка рэжыму яго сын атрымаў за тое, што не своечасова лёг на ложак і адмовіўся мыць туалет. Сярод асуджаных прыбіраць туалет лічыцца зневажальнай працай, таму ён адмовіўся яе выконваць.

На пытанне адносна прашэння пра памілаванне Аляксандр Каваленка адказаў, што сын напісаў толькі адзін радок: «Прашу вызваліць мяне».

Па словах Аляксандра, сын не прызнаў сваёй віны. Адміністрацыя прапанавала напісаць прашэнне пра памілаванне прыкладна месяц назад. Палітвязень не спадзяецца на хуткае вызваленне, бо для гэтага трэба хадайніцтва адміністрацыі калоніі. «А яго Сяргей не чакае, бо яго зрабілі злосным парушальнікам», – адзначыў Аляксандр Каваленка.

У калоніі не прынялі лекі для Сяргея, якія прывезлі сваякі. Сказалі адпраўляць пасылкай. Супраць гэтага, па словах сваякоў, выступіў начальнік медыцынскай часткі.

У калоніі працягваецца спатканне палітвязня з жонкай Аленай і сынам Валянцінам. Яно завершыцца 27 ліпеня. Маладушую дачку Сяргея Каваленкі Вікторыю са спаткання забралі з сабой брат і бацька. Па іх словах, ёй цяжка знаходзіцца з бацькам ва ўмовах не прыдатных для малога дзіцяці.

**Ян Сведка.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# Абслугоўванне пагоршылася з-за цяжкага фінансавага становішча

Шмат нараканняў было ў адрас «Аўтобуснага парку №1 г.Віцебску» з боку пасажыраў, якія падарожнічаюць у бок Ліпаўцоў, Шапечына, Асінаўкі. Як паведаміў дырэктар філіяла В. Іллюковіч, «Аўтобусны парк №1 г.Віцебску» апынуўся ў цяжкім фінансавым становішчы (страта за 5 месяцаў па прыгарадных маршрутах склаў 3 391,8 млн. руб.). Таксама адчуваецца востры дэфіцыт кіроўцаў і кандуктараў, па ўсіх гарадскіх і прыгарадных маршрутах, хаця і праводзіцца праца па аптымізацыі маршрутнай сеткі.

Павялічыць колькасць адзінак транспарта ў дадзеным кірунку прадпрыемства не мае магчымасці. Разам з тым, улічваючы пажаданні грамадзян і кіруючыся дадзенымі пра пасажырскія перавозкі, кіраўніцтву калоны №2 рэкамендавана планаваць па маршрутах «Віцебск-Шапечына» з адпраўленнем у 5.40 з Маскоўскага праспекта, «Віцебск- Асінаўка» з адпраўленнем у 8.05 і 13.40, «Віцебск-Шаркі» з адпраўленнем у 8.05 і 13.40, «Віцебск-Лучоса» і «Віцебск-Калінкавічы» з адпраўленнем у 17.35 аўтобусы большай ёмістасці - маркі МАЗ-103, 104, «Нёман» ёмістасцю ад 78 да 89 месцаў (у крайнім выпадку, па будных днях - аўтобус маркі ПАЗА-4234 ёмістасцю 50 месцаў).

**Ян Сведка.**

# АБ’ЯВА

- *Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.*
- *Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.*
- *Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты « Покліч волі ».*
- *Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.*

УЗАЕМАДАЧЫНЕННІ

# АБМЯНЯЛІСЯ ВІЗІТАМІ

**Віцебшчыну наведалі педагогі і чальцы прафарганізацыі Ўсходняй адміністрацыйнай акругі Масквы. У рамках чатырохдзённага знаходжання ў Прыдзвінскім рэгіёне госці азнаёміліся з культурна-гістарычнай спадчынай Віцебска, пабывалі ў шэрагу ўстаноў адукацыі, на аб'ектах сельскагаспадарчай вытворчасці і перапрацоўчай прамысловасці Віцебскага раёна.**

Візіту расійскіх педагогаў папярэднічала сёлетняя травеньская паездка дэлегацыі Віцебскага раёна, якая адбылася па запрашэнні Тэрытарыяльнай прафарганізацыі працаўнікоў народнай адукацыі і навукі Ўсходняй акругі Масквы. У адказ віцьбічы прымалі на прыдзвінскай зямлі сваіх аднадумцаў.

Масквічы прыехалі запасыічыць для сябе нешта з лепшых педагаічных здабыткаў сваіх беларускіх калегаў. Як мяркуецца, паездка скарэктуе супольную працу, выбудуе ўзаемныя адносіны на будучыню. Для супрацоўніцтва ў прыватнасці абраныя пытанні, злучаныя з вывучэннем культуры, побыту, захавання і прымнажэння народных традыцый.

Маскоўскія педагогі наведалі Ноўкінскую, Даўжанскую і Мазалаўскую школы, а таксама Цэнтр развіцця дзіцяці.

Цяпер, калі ў Расіі ўзяты курс на новы падыход да рэфармавання адукацыі, прыкметна ўзмацніліся патрабаванні да атэстацыі педагогаў. Як такога дэфіцыту ў кадрах сістэма адукацыі не прабоўвае, аднак у школах існуе адчувальны недахоп фізікаў.

Зацікавіла гасцей праца з дзецьмі, якія апынуліся ў сацыяльна-небяспечных умовах. У гэтым кірунку ў расійскіх калегаў, таксама выбудавана сістэма працы, у якой задзейнічаны не толькі педагогі, дзеці і бацькі, але і сацыяльна-псіхалагічныя службы. Пры ўправах дзейнічаюць цэнтры сацыяльнай адаптацыі для дзяцей-мігрантаў. Пад час знаходжання ў сацыяльна-педагагічным цэнтры ў аг. Бабінічы дэлегацыя наведала музей гісторыі сістэмы адукацыі Віцебскага раёна.

Госці адзначылі вялікую працу віцьбічаў па патрыятычным выхаванні навучэнцаў, для якіх традыцыі папярэдніх пакаленняў засталіся святымі.

**Ян Сведка.**

ПРАБЛЕМА АЛКАГАЛІЗАЦЫІ

# Няўжо знікне “чарніла”?

**У Віцебскім раёне, як і ва ўсёй Віцебскай вобласці на перыяд уборкі з продажу павінна знікнуць таннае віно. Такое даручэнне даў 26 ліпеня на пасяджанні Віцебскага аблвыканкама ягоны старшыня Аляксандр Косінец пры разглядзе пытання пра выкананне патрабаванняў Дырэктывы №1 «Пра меры па забеспячэнні грамадскай бяспекі і дысцыпліны» ў частцы выканання заканадаўства пра працу, ахову працы і дадатковых мерах па забеспячэнні бяспекі жыццядзейнасці ў траўманебяспечных галінах народнай гаспадаркі.**

Рашэнне абумоўлена нізкай вытворчай дысцыплінай, цесна злучанай з ужываннем алкаголю на працоўным месцы, і прапарцыйна высокім узроўнем выпадкаў згубы і цяжкага траўматызму. На ягонае прыняцце паўплывала і тое, што з пачатку года за знаходжанне на працы ў стане алкагольнага ап'янення звольнена 728 працаўнікоў (з іх 2 кіраўніка і 31 службовая асоба), таксама зафіксавана шэсць выпадкаў атрымання цяжкіх траўмаў на вытворчасці, ці 14% ад іх агульнай колькасці, адбылося з працаўнікамі ў стане алкагольнага ап'янення. Напрыклад, цяжкую траўму рукі атрымала разгрузчыца сыравіны Сенненскага льнозавода, якая абаперлася на ўключанае абсталяванне, ужываючы алкаголь на працоўным месцы. Абуральным пацверджаннем адсутнасці кантролю ў дадзеным пытанні з'яўляюцца выпадкі смерці працаўніка ДСУ №63 Талачынскага раёна пад коламі пагрузчыка ў выніку спробы прадухіліць крадзяжу дызпаліва і згубы трактарыста-машыніста ААТ «Данукалава-Агра» Лёзненского раёна з прычыны падзення ў латок транспарцёра гноявыдалення ў стане моцнага алкагольнага ап'янення.

Паўплываць на сітуацыю, па меркаванні старшыні аблвыканкама, дапамажа адсутнасць у продажы на перыяд уборачнай танных пладова-ягадных вінаў. Ён выказаў меркаванне, каб на паліцах засталіся толькі алкагольныя напоі даражэйшага цэнавага сегмента і нагадаў пра плане рэгіёна па спыненні вытворчасці адзінарных пладова-ягадных вінаў: у цяперашнім годзе іх вытворчасць павінна скараціцца на 15%, а ў 2013-м цалкам спыніцца.

Падобныя заявы ўжо неаднаразова рабіліся кіраўнікамі розных узроўняў, пачынаючы ад усенароднa абранага, а воз, як кажуць, і зараз там. Пачакаем 2013-га і даведаемся ці то гэта пусты гук, ці то насамрэч можна пабудаваць камунізм у асобна ўзятай вобласці.

Тое ж, што ўзнятая парблема вымагае такіх радыкальных падыходаў, гаворыць пра маштабы народнай алкагалізацыі, а яна відавочная. Не трэба нават заглыбляцца ў статыстычныя справаздачы–дастаткова паназіраць за наведнікамі вясковых і гарадскіх крамаў. Нярэдка купленая бутэлька раскаркоўваецца і апустошваецца наўпрост за рогам магазіна, у якім яна куплена.

Але ж алкагалізм не толькі адна з прычынаў эканамічных стратаў, а хутчэй следства ўсяго ладу жыцця, збудаванага тут па савецкай мадэлі. Ладу, калі ад чалавека не патрабуецца адказнасці за лёс краіны, калі школа выхоўвае інфантылікаў, якія не ўсведамляюць сябе часткай сусветнай цывілізацыі, дзе ўжо тут да цвярозага ладу жыцця.

Некалі мы ўжо чулі заявы падобнага зместу: наступствамі гарбачоўскай барацьбы з вінапіццём стаў развал СССР. Няўжо ўлада спадзяецца, што застарэлую хваробу можна вылекаваць такімі дрyгаснымі мерамі. 18 гадоў спойвалі, а за год узяліся і прывялі насельніцтва ў стан прытомнасці. Баюны ды толькі! Не, калі ўжо народ пагля́дзіць цвярозымі вачыма на сваё становішча, тут ужо не дапаможа ні даражэйшы цэнавы сегмент, ні адмарозкі з дручкамі.

**Ян Сведка.**

КНІГА СКАРГАЎ

# НЯПРОСТАЕ СУСЕДСТВА

**Няпростыя суседзі дасталіся жыхарам вул. Юбілейнай з г.п. Янавічы. Над галовамі вяскоўцаў у літаральным сэнсе ўюцца чорныя крумкачы.**

Адзінае выйсце, якое пазбавіць вяскоўцаў ад пранізлівага каркання з раніцы да вечара, – абразаць дрэвы, думалі янаўцы. Аднак у кіраўніцтва УП ЖКГ «Віцярайкамгас» свой погляд на сітуацыю: выканаць працы па абразанні дрэў зблізку жылой дома №1 і ў скверы па вул. Юбілейнай у г.п. Янавічы не ўяўляецца магчымым, бо на дрэвах размешчаны гнёзды птушак, якія пры вытворчасці вышэйпаказаных прац будуць разбураны.

У адпаведнасці з артыкулам 19 Закона Рэспублікі Беларусь «Пра жывёльны свет» забараняецца разбурэнне гнёздаў птушак, размешчаных у населеных пунктах, у перыяд з 16 красавіка па 15 кастрычніка, – спасылаюцца на нарматыўны дакумент камунальнікі. Рабіць абразанне і выдаленне дрэў можна толькі ў асенне-зімовы перыяд: з 16 кастрычніка па 15 красавіка. У выпадку парушэння на УП ЖКГ «Віцярайкамгас», як на юрыдычную асобу, можа быць накладзены штраф у адпаведнасці з артыкулам 15.32 Кодэкса Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні ад 20 да 500 базавых велічынь, а таксама штраф за шкоду, нанесеную навакольнаму асяроддзю.

Атрымліваецца, вяскоўцам застаецца чакаць кастрычніка-лістапада, бо менавіта на гэтыя месяцы камунальнікі запланавалі працы па абразанні дрэў. Вось толькі асцерагаюцца янаўцы, як бы не прыйшлося абяцанага чакаць тры гады, раптам знойдуцца новыя акалічнасці, якія перашкодзяць ім пазбавіцца ад такога птушынага суседства…

**Якаў Дрозд.**

КРЫМІНАЛ

# ЗЛАЧЫННАСЦЬ У ДЗЯВОЧЫМ АБЛІЧЧЫ

Мы не ставім сабе за мэту высвеціць, што падтурхнула дзевяцікласніцу Старасельскай школы выкрасці тэлефон у сваёй настаўніцы, але факт застаецца фактам. Дзяўчына наўпрост са стала педагога сцягнула пакінуты без нагляду мабільны і падарыла яго стрыечнай сястры.

У гэтым выпадку ўсё абыйшлося. І дзяўчынцы захацелася далей пагуляць з законам, выпрабаваць тое, чаму не вучаць у школе. У іншай настаўніцы яна выцягнула з сумачкі 450 даляраў ЗША. Спалохаўшыся вялікай сумы, 250 даляраў выкінула. Аднак пасля таго, як гаспадыня сумачкі, абапіраючыся на сведчанні дзяцей-відавочцаў, абвінавціла вучаніцу ў крадзяжы, у той жа дзень вярнула скрадзеныя грошы.

Непаўнагадовая злачынца чыстасардэчна пакаялася ў сваім учынку, і гэта змякчыла ейную долю: школьніца асуджана да 1 году пазбаўлення волі па ч.1 і 2 арт. 205 КК РБ. Прысуд не будзе прыведзены ў выкананне, калі на працягу года яна не здзейсніць новага злачынства і будзе добрасумленна выконваць свае абавязкі.

**Ян Сведка.**

НАША СПАДЧЫНА

# “Горад майстроў”

**Пад час “Славянскага базару” падворак Віцебскага раёна размясціўся ля рэстарана «Паўночная сталіца» . Тут жа поруч разгарнулі гандлёвыя шэрагі рамеснікі, народныя ўмельцы.**

Вясковы каларыт падворку надаюць «прыпаркаваныя» поруч з тынам калёсы, а таксама стары млын, які па запэўніваннях гаспадароў, абяцае перамалоць усе нягоды і беды. «Горад майстроў» аб'яднаў 200 народных творцаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія захоўваюць традыцыі народнай творчасці.

Ірына Кротава і яе дачка Лізавета з аг. Вароны ганарацца сваімі мастацкімі вырабамі з лазы. Іх плеценыя кошыкі, бочачкі, бутэлькі заўсёды спатрэбяцца і ў гаспадарцы, і як цікавыя сувеніры, што могуць стаць прыемным падарункам. Пляценне з лазы захапіла ўсю сям'ю Кротавых, у тым ліку бацьку і старэйшую дачку.

Вырабы народных умельцаў Віцебскага раёна прыемна дзівяць сваёй разнастайнасцю.

Ларыса Стальмах з аг. Кастрычніцкая прапануе свае ўпрыгожванні з пацерак у спалучэнні з натуральным каменем. У яе прыгожых каралях, бранзалетах з яркімі маляўнічымі пацеркамі гармануюць карал, аметыст, сердалік, змеявік.

Былая настаўніца Ларыса Леанідаўна захапілася бісерапляценнем пасля таго, як выйшла на пенсію. Па словах майстрыхі, у яе ўяўленні ўвесь час складаюцца вывы будучых упрыгожванняў. На адзін выраб неабходна ад 2 да 7 дзён.

Вялікую цікавасць выклікаюць лялькі-кручанкі яшчэ адной жыхаркі аг. Кастрычніцкая Марыі Ухваронак. Пацешныя фігуркі ў яркіх сукенках і хустачках чамусьці не маюць твараў.

Лялькі-скручанкі здаўна рабілі ў простых сем'ях дзецям для гульні і як засцярог: іх падвешвалі над ложачкам. Лялек рабілі безаблічнымі, таму што лічылі: у твар можа ўсяліцца злы дух.

Метадыст па народнай творчасці Цэнтра рамёстваў Наталля Канькова выставіла свае вырабы – ільняныя торбы, кручаныя паясы, гліняныя сувеніры, якія можна было выйграць у бяспройгрышную латарэю. На падворку выстаўлены і іншыя працы майстроў цэнтра – чальцоў народнага клуба «Традыцыя», а таксама умельцаў з Сялюцкага псіханеўралагічнага дома-інтэрната.

**Якаў Дрозд.**

ЗДАРЭННІ

# Прырода не дарue

**Дзевятага ліпеня тэрыторыя раёна апынулася ў эпіцэнтры разгулу стыхіі.**

У абласным цэнтры хуткасць ветра дасягала 15 м/с, у той час як у асобных раёнах Прыдзвіння шквалістыя парывы перавышалі 20 м/с. Найбольш пацярпеў ад ураганнага ветру Мазалаўскі сельсавет.

На працягу гадзіны стыхія гаспадарыла ў в.в. Буяны, Доўжа, Герасімава, Саўчонкі. У выніку было пашкоджана 35 ліній электраперадач. Без электраэнергіі засталіся прыватныя спажыўцы, аднак праз лічаныя гадзіны ўсе нязручнасці былі ўхілены.

Ураган сарваў шыфер з дахаў 10 жылых хат у в.в. Доўжа і Буяны. УП ЖКГ «Віцярайкамгас» і Мазалаўскі сельскі выканкам падлічваюць шкоду, гэтак жа як і Віцебская біяфабрыка. Тут ветрам сарвала парадку тысячы пагонных метраў даху і 250 – абляноўкі з будынкаў прадпрыемства.

«Агаліла» стыхія і дзве фермы жывёлагадоўчага комплексу СХП «Мазалавагаз» у в. Буяны.

А 10 ліпеня ў раёне в. Лагунцы зблізку пас. Кастрычніцкі на вадасховішчы ахвярай трагедыі стаў 32-гадовы мужчына.

Як паведамляе прэс-служба , падчас пошукавых прац вадалазаў Віцебскага АУМНС абследавалася водная акваторыя на плошчы 120 кв. метраў. Адмысловцы выявілі і вынялі з вады цела мужчыны – як высвятлілася, жыхара Віцебску. Брыгада хуткай дапамогі, якая дзяжурыла на беразе вадасховішча, канстатавала смерць.

**Ян Сведка.**

ДАРОЖНЫ КРЫМІНАЛ

# Кошт паездкі – 30 мільёнаў

**Паўторная паездка на аўтамабілe ў стане алкагольнага ап'янення абыйшлася жыхару г. п. Руба ў 30 мільёнаў рублёў. Такі вердыкт у стаўленні да кіроўцы вынес суд Віцебскага раёна.**

Не прайшло і паўгода, як 35-гадовы Артур упершыню сеў за руль «Жыгулёў» нападпітку. Тады ён адкараскаўся штрафам у памеры 35 базавых велічынь, што на дзень вынясення пастановы па справе пра адміністрацыйнае правапарушэнне склала 1225000 рублёў. Відаць, мужчыну на той момант не зьянтэжыў «кошт» паездкі, а таму ён ізноў вырашыў выпрабаваць лёс.

У сакавіку ў в. Лучынаўка на сваім шляху ён сустрэў супрацоўнікаў дарожна-патрульнай службы. Высветлілася, што гэта ўжо не першы важ Артура падшафе.

Гэтым разам прысуд быў куды стражэйшы за папярэдні, ды і з любімым «Вазам» прыйшлося развітацца, на машыну накладзены арышт. Сваімі дзеяннямі кіроўца здзейсніў злачынства, прадугледжанае ч.1 арт.317-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь: кіраванне транспартным сродкам асобай, якая знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, здзейсненае на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такое ж парушэнне.

**Ян Сведка.**

НАШЫ "ПАРЛАМЕНТАРЫІ"

# КОНЬ В СЕНАТЕ

ИЗВЕСТНЫЙ ИСТОРИЧЕСКИЙ ФАКТ: РИМСКИЙ ИМПЕРАТОР КАЛИГУЛА ВВЕЛ В СОСТАВ СЕНАТА СВОЕГО КОНЯ. ТАКИМ ОБРАЗОМ, КОНЬ ПО КЛИЧКЕ ИНЦИТАТ ВОШЕЛ В ИСТОРИЮ КАК САМЫЙ ВЫСОКОПОСТАВЛЕННЫЙ ЖЕРЕБЕЦ, А ИМПЕРАТОР КАЛИГУЛА ДОЛГО СЧИТАЛСЯ СУМАСШЕДШИМ. ОДНАКО СЕЙЧАС ИСТОРИКИ ПЕРЕСМОТРЕЛИ СВОИ ОЦЕНКИ.

В новой исторической трактовке считается, что Калигула при соблюдении всех демократических процедур (конь был объявлен гражданином Рима, как требовал закон того времени) просто высмеял бездельников. Более того, выяснилось, что когда эксцентричный император был убит, народ выступил против вывода коня из сената.

Потому что в отличие от других законодателей, Инцитат никого в тюрьмы не сажал, дурных советов не давал и требовал совсем немного на свое содержание.

Две тысячи лет прошло, а какие очевидные параллели! Калигула, он же Гай Юлий Цезарь, известен своим принципом: «Пусть ненавидят, лишь бы боялись». Ну а конь… Нет, лица в белорусском парламенте человеческие. Но все-таки уже очевидно, что наш правитель тоже сделал свой ход конем, формально использовав для этого демократические процедуры.

Простой пример из жизни сегодняшней Беларуси недавно привел епископ Гомельский и Жлобинский Стефан. Так и сказал: «Самый простой пример». «Вы знаете, что в домах престарелых есть норма, согласно которой лежачему человеку положен один памперс на трое суток? – спросил епископ Стефан у журналиста газеты «Вечерний Гомель». – Можно ли содержать так лежачих людей?»

Я тоже журналист, и я этого не знала. Даже мысли, даже тени подозрения не было, что можно дойти до такой степени цинизма. Громогласно отчитаться, что лежачих больных государство обеспечивает памперсами и подгузниками, засветиться в качестве заботливых благодетелей в СМИ и на телеэкранах, а на самом деле установить издевательскую норму «один – на три дня». Почему не один на месяц или даже на год? Какими физиологическими процессами обоснована эта норма?

Конечно, даже не надо быть медиком, чтобы понимать, что человек от такого «подарка» будет умирать в вони и собственных испражнениях. Но в Палате представителей было 14 депутатов-врачей, большое профессиональное лобби. Как они могли молчать? Те, кто давал клятву Гиппократа. Те, кто знает и видел, что такое лежачий больной. Почему никто из них ни разу даже не заикнулся, что государство просто не имеет права тратить миллионы долларов на то, чтобы запускать в космос спутники или отправлять экспедиции в Антарктиду, когда так страшно умирают собственные граждане?..

14 врачей сидели в Палате представителей как народные избранники, но так истово одобряли все решения власти, что даже не вспомнили о некоторых физиологических отличиях, которые есть между мужчинами и женщинами. Хотя именно из-за этих особенностей строения организма инвалиды-колясочники, лежачие, парализованные мужчины используют не памперсы, а наружные урологические катетеры.

Эти злополучные катетеры и мочеприемники вообще не попали в списки изделий санитарно-гигиенического назначения, которыми государство обеспечивает инвалидов. Про тысячи человек, про тысячи больных мужчин просто забыли, о них никто даже не подумал. Будто их нет, будто они уже умерли или испарились. Так какой вообще толк от того, что в парламенте заседали врачи?

Конечно, в XXI веке это вообще позор – иметь такую проблему. Это стыд невероятный – экономить на памперсах и катетерах для больных людей. Это скотство – вычеркнуть из списка тех, кому положены памперсы, глубоких стариков, главный диагноз которых – старость. Это просто какая-то форма государственного людоедства. Потому что простейшее и элементарное, что государство должно обеспечить своим больным и немощным – право жить и умирать, извините, не в моче и фекалиях.

Однако никто из депутатов не осмелился на эти темы даже говорить, не то что добиваться и требовать. Хотя это не политика. Это не защита политзаключенных. Это не с открытым забралом да против коррупции, против силовиков. Это то, что даже в наших условиях они могли и должны были делать. И все равно не стали. Струсили.

Они струсили по мелочи, и тем более трусили по-крупному. Беларусь вымирает. Разными хитростями выводят из статистики смерти от онкозаболеваний, но очевидное невозможно спрятать: в каждой белорусской семье есть умершие от рака и редко у кого – от старости.

По последним данным РНПЦ онкологии и медицинской радиологии, за последние 10 лет заболеваемость раком в Беларуси выросла на треть, на 34%. Правда, никто по этому поводу не кричит «Караул!». И даже наоборот, нас всячески успокаивают, что не надо паниковать, потому что такая тенденция во всем мире, и дальше будет только хуже.

Вроде все так. Только во всем мире рак выявляют на ранних стадиях и лечат. А у нас – когда человек начинает загибаться, сам идет к врачу, но сделать уже ничего невозможно. Врачи прекрасно знают это важное отличие. Знают, что во всем мире для выявления рака на ранних стадиях выстроена целая система. Знают, что простейшее и элементарное в ранней диагностике – это анализ крови на онкомаркеры. Вот заболели вы, скажем, ангиной или, абсолютно здоровый, пришли за водительской медсправкой, и вас отправляют сдать такой анализ.

Посчитав белки-гормоны в крови, оказывается, можно выявлять опухолевые процессы в самом начале. Только нашему государству это не надо. У нас не нашлось денег. На самые разные причуды и авантюры, на «Славянский базар», на хоккей, на новые самолеты, на новые резиденции деньги есть, а на спасение людей от смертельных стадий рака – нет. И именно депутаты принимали такие законы о государственном бюджете. «За» голосовали даже депутаты-медики.

Кто они после этого? Врачи? Государственные деятели? Представители народа?..

Чем больше думаешь, тем очевиднее, что конь в сенате это действительно некий символ уровня нынешнего белорусского парламентаризма. Правда, кормим мы его слишком щедро.

**Светлана КАЛИНКИНА, «Народная воля».**

НУ І НУ!

# ЗАНИМАТЕЛЬНАЯ АРИФМЕТИКА

УХОДЯЩАЯ НЕДЕЛЯ ПОДАРИЛА ЧУДНУЮ ИГРУ ЦИФР. В ПЕРВОМ ПОЛУГОДИИ ДОХОДЫ БЮДЖЕТА БЕЛАРУСИ ОТ ПРИВАТИЗАЦИИ СОСТАВИЛИ ОКОЛО 1 МИЛЛИОНА ДОЛЛАРОВ, А ПЕРВЫЙ ЗАМЕСТИТЕЛЬ ПРЕДСЕДАТЕЛЯ МИНГОРИСПОЛКОМА ИГОРЬ ВАСИЛЬЕВ ВЫМОГАЛ У ИНОСТРАННОГО ИНВЕСТОРА ВЗЯТКУ В РАЗМЕРЕ 500 ТЫСЯЧ «БАКСОВ».

Конечно, эти два темы напрямую друг с другом не связаны. Но соотношение всё равно впечатляет: по данным КГБ, госчиновник требовал «на лапу» сумму, равную половине поступлений от приватизации в масштабах всей страны!

А хотите еще немного занимательной арифметики? Согласно обязательствам перед Антикризисным фондом ЕврАзЭС Беларусь в 2012 году должна обеспечить поступления от приватизации на 2,5 миллиарда долларов. По итогам первого полугодия, план выполнен на 0,04%.

И, на закуску: 1 год и 9 месяцев – столько провел на посту первого заместителя председателя Мингорисполкома Игорь Васильев. До этого он работал директором минского комбината силикатных изделий, то есть чиновником не являлся. Вот и возникает вопрос: то ли наши госструктуры портят и развращают людей в кратчайшие сроки, то ли на вторую должность в столице изначально брали маститого взяточника?

Да, кстати: согласие на назначение Игоря Васильева в Мингорисполком давал видный борец с коррупцией Александр Лукашенко. Может, он теперь сам себе строгий выговор объявит за очередной провал в кадровой политике?..

**Вадим Ливнев.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ: ЧАМУ ТРЭБА ІСЦІ НА ВЫБАРЫ

"КАЛІ СТАВІШ МЭТУ "ПАКАЗАЦЬ ДУЛІНУ" ЎЛАДЗЕ І СКАЗАЦЬ, ШТО ЯНА КЕПСКАЯ, ТО БАЙКОТ – НІБЫТА НАРМАЛЬНА. АЛЕ КАЛІ ХОЧАШ ДАЙСЦІ ДА ЛЮДЗЕЙ, ЗМЯНІЦЬ ДУМКУ, ЗАВАЯВАЦЬ РОЗУМ ЛЮДЗЕЙ, ТО ТРЭБА ІСЦІ ДА ІХ", – ЗАЯВІЎ АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ У ІНТЭРВ'Ю ЖУРНАЛІСТАМ "БЕЛСАТУ".

У штабе Мілінкевіча рыхтуюцца да актыўнай агітацыі. Аляксандр Мілінкевіч вылучаецца кандыдатам у Менску па Уручанскай 109-й акрузе. У ягонай ініцыятыўнай групе больш за 350 асобаў, сярод якіх – бард Зміцер Бартосік, былы палітвязнявольны Мікіта Ліхавід, палітык Рыгор Кастусёў, эканаміст Сяргей Чалы, былы віцэ-рэктар ЕГУ Уладзімір Дунаеў.

Палітык упэўнены, што большасць беларусаў расчараваныя ў дзейнай уладзе і хочуць пераменаў. "Людзі заўсёды пытаюцца: а што вы хочаце зрабіць? Чаму пры вас жыццё мае стаць лепшым? Каб гэта патлумачыць, трэба ісці на выбары, ісці і казаць праўду: і пра палітвязняў, і пра тое, што сапраўдных выбараў няма. Але без паходу на выбары мы маргіналізуемся і людзі думаюць, што ўвогуле няма альтэрнатывы", – мяркуе лідар Руху "За Свабоду".

### "Без ілюзіяў"

Аляксандр Мілінкевіч падкрэслівае, што ўладам цалкам падкантрольны выбарчы працэс – ад вылучэння і рэгістрацыі кандыдатаў да падвядзення вынікаў, што дае магчымасць атрымаць парламент у выгадным для адміністрацыі складзе.

"Дэмакратычнага працэсу няма, але гэта не азначае, што ў выбарах не трэба ўдзельнічаць, – гаворыць Аляксандр Мілінкевіч. – Я удзельнічаў аднойчы ў байкоце, у 2000-м годзе. Тады толькі Мікола Статкевіч быў супраць, а мы ўсе не ўдзельнічалі. Лічу гэта памылкаю, а Мікола меў рацыю. Дарэчы, Мікола Статкевіч і сёння кажа – адтуль, з турмы, з самых цяжкіх умоваў: ідзіце да канца, распавядайце праўду, але не здымайцеся, не рабіцеся маргінальнымі".

### "Іду з "Народнаю праграмаю"

Палітык заўважае, што ўлады працягваюць палітыку жорсткіх рэпрэсіяў супраць сваіх палітычных апанентаў. "Улады так сябе паводзяць, бо адчуваюць няўпэўненасць. Рэйтынг Лукашэнкі значна ўпаў, і ён не мае рэсурсаў, каб аднавіць гэты рэйтынг", – пакрэсліў Мілінкевіч. "Людзі запалоханыя, але і сама ўлада ў шокавым стане: старая мадэль не працуе, патрэбная новая. Мы будзем распавядаць пра "Народную праграму", якую склалі больш за 40 экспертаў, што выпрацавалі канкрэтныя падыходы, "дарожныя мапы" таго, што трэба рабіць у розных кірунках, – распавядае Аляксандр Мілінкевіч. – Мы маем фундаментальны дакумент, які абмеркаваны з людзьмі і складзены найлепшымі экспертамі Беларусі".

**Прэс-служба Руху "За свабоду!".**

РОЗНАЕ ЖЫЦЦЁ

# МЯСО ВАРШАВСКОЕ И БЕЛОРУССКОЕ

В Варшаве белорусу обыкновенному избалованному социальным государством и 5,5% ростами ВВП, придется переживать удивления. Например, попробуйте объясните ему, зачем на билбордах по всему городу рекламировать мясо по 31.600 руб. (12.89 злотых)? Без кости – пишут они на этом своём билборде. Мне кажется нагло, нет?!

Нуждается ли данная свинина в рекламе? А не спровоцирует ли асоциальную очередь в мясном отделе, потом эти неприличные гыгы на ютубе. Уверены ли поляки в том, что резервы стабилизационного фонда Варшавы не истощатся в два дня по причине массового вывоза без кости за пределы страны в восточном направлении для дальнейшей бесконтрольной перепродажи еще восточнее? И, главный вопрос для белоруса обыкновенного – сколько там кило в одни руки-то за раз?

Самое социальное мясо в Минске стоит 37.450 руб. Оно и называется по-человечьи: "спинно-поясничная часть". Тут белорусу, оказавшемуся западнее от социальной своей страны, снова будет непросто – как сравнивать в цене мясо отечественное с ихним, если поляки не догадываются писать на свинине "п/ф мясокостный для вторых блюд из свинины" – 41.100 руб., как в магазинах Минска. Зато наше мясо настоящее социальное, с костью, приличной жирности и со шкуркой же.

Попробуй найди такое в Варшаве. Ага, ищи.

Там по цене нашего "п/ф мясокостного" продают, например, филейную часть (17.99 злотых или на наши 44.000 руб). В Минске филей идёт по 77.650, но это наш филей замороженный. В Варшаве по такой цене продаётся, например, пастрома (29.99 злотых или 73.380 рублей).

Не стоит рассчитывать на мясо мороженное в варшавских магазинах. Не теряйте времени зря, берите что дают, пускай даже это мясо без кости. Дома разрежете на эти странные магазинные куски, заморозите в холодильнике – и будет вам родное отечественное "п/ф", всё как вы любите.

Лопатка без кости в Варшаве стоит 13.99 злотых, на наши это неприличные 34.300 руб. Хотя б кость оставили что ли…. В мясном отделе минской крамы свинина, называемая похоже – "лопаточный отруб" – тоже недорого 38.050 руб. за кг. Но этот "отруб" рубил, кажется, маньяк, очень старался избавиться от мяса на кости. "Лопатка без кости" в магазине "Гурман" на этой неделе стоит 74.780 руб. Это 2 кило 180 грамм варшавской такой же.

Вот рёбрышки – и в Варшаве рёбрышки. Только там по 40 тысяч на наши рубли (15.99 злотых). У нас столько рулька стоит. Ребра в "Гурмане" идут по 67.130. И на вид уступают ихним. Хотя и цены уже достаточно.

**Виктор Малишевский, malishevsky.livejournal.com.**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ДЫЯЛОГ "ПА ПАНЯЦЦЯХ"

БЕЛАРУСКІЯ СЛУЖБОЎЦЫ ЗНОЎ ПАЧАЛІ ЕЗДЗІЦЬ НА ЗАХАД, АЛЕ РАЗГЛЯДАЦЬ ГЭТА ЯК ЗМЕНУ ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАГА КУРСУ АФІЦЫЙНАГА МІНСКА НЕ ВАРТА.

У Вену прарвалася невыязная старшыня ЦВК, а ў Брусэль запрасілі міністра замежных справаў. Паразуменьне не дасягнута, паведамляе Польскае радыё.

Не пасьпеў мінуць ажыятаж зьвязаны з паездкай Лідзіі Ярмошынай у Вену на канфэрэнцыю АБСЭ, як у Эўропу зноў падаўся беларускі афіцыйны вяжор. Гэтым разам у Брусэль наведалася цэлая беларуская дэлегацыя на чале зь міністрам замежных справаў Сяргеем Мартынавым. Дэлегацыя ўзяла ўдзел у 3-й сустрэчы міністраў замежных справаў краін-партнэраў "Усходняга партнэрства". Афіцыйная тэма сустрэчы – абмеркаваньне "дарожнай мапы" Усходняга партнэрства ды ініцыятываў па далейшым разьвіцьці гэтай праграмы да 2013 году. Летась беларускія ўлады ігнаравалі такія мерапрыемствы. Няўжо афіцыйны Менск узяў курс на пацяпленьне адносінаў з ЭЗ? Не, - перакананы палітоляг Андрэй Фёдараў. Андрэй Фёдараў: Гэтыя падзеі, якія адбыліся ў Вене ды Брусэлі, дачыненьня да Беларусі ня мелі. Гэта былі ардынарныя мерапрыемствы ў межах АБСЭ ды "Ўсходняга партнэрства". Паколькі Беларусь ня выключаная ані з той, ані з іншай арганізацыі, то ёй накіроўваецца афіцыйнае запрашэньне. Беларускі бок накіроўвае туды сваіх прадстаўнікоў.

Цяжка ўбачыць адзнакі пацяпленьня ў заявах абодвух бакоў. Напрыклад, паводле паведамленьня МЗС Беларусі, Сяргей Мартынаў у Брусэлі казаў пра неабходнасьць няўхільнага выкананьня базавых прынцыпаў УП, пра недапушчальнасьць дыскрымінацыйных падыходаў і пераадоленьне дэфіцыту дэмакратыі ўнутры "Ўсходняга партнэрства". Што хаваецца за гэтай афіцыйнай навамовай, тлумачыць палітоляг Аляксандар Лагвінец: "Рэжым увесь час шле сыгналы аб'яднанай Эўропе, дамагаючыся прызнаньня сытуацыі такой, якой яна ёсьць, то бок, ніякага ціску ў справе дыктатуры ў краіне. Вось таму асабісты міністар Лукашэнкі Мартынаў быў накіраваны ў Брусэль, каб яшчэ раз агучыць такую пазыцыю Лукашэнкі.

З эўрапейскага боку ў сустрэчы ўдзельнічалі Вярхоўны прадстаўнік ЭЗ па замежных справах Кэтрын Эштан, эўракамісар па пашырэньні ЭЗ Штэфан Фюле, кіраўнікі зьнешнепалітычных установаў краінаў ЭЗ ды краінаў УП. Іх пасланьне да афіцыйнага Менску мела наступны характар: няма месца палітвязьням у сэрцы Эўропы. Пра гэта паведаміла Кэтрын Эштан на прэсавай канфэрэнцыі па выніках сустрэчы. Яна зазначыла, што ЭЗ яшчэ раз гучна заявіў пра сваю занепакоенасьць сытуацыяй у Беларусі, у тым ліку адсутнасьцю павагі да правоў чалавека, вяршынства закона, дэмакратыі й незалежнасьці СМІ. Таксама было заяўлена пра неабходнасьць неадкладнага вызваленьня й рэабілітацыі ўсіх палітзьняволеных."

Ці афіцыйны Менск успрыме дадзенае пасланьне? У гэтым сумняецца Андрэй Фёдараў: "На жаль, афіцыйны Менск гэтага не пачуе. Мы чулі заявы Аляксандра Лукашэнкі, што мяч на баку Эўропы. Афіцыйны Менск лічыць, што сваю частку зрабіў, выпусьціўшы Саньнікава й Бандарэнку, а Эўропа на гэта не адгукнулася. Пакуль ня будзе гэтых мераў у адказ, беларускія ўлады нічога ня будуць рабіць. На дадзены момант нічога не прымушае беларускія ўлады ісьці насустрач гэтым заклікам."

Беларускія ўлады не гатовыя нічога мяняць у краіне, бяз гэтага размовы паміж Брусэлем ды афіцыйным Менскам безвыніковыя, перакананы Аляксандар Лагвінец: "ЭЗ ня робіць градацыі паміж палітвязьнямі ды чакае вызваленьня ўсіх. Тады будзе заўважны крок насустрач з Эўразьвязу. Пакуль жа беларускія ўлады вельмі моцна расчаравалі Брусэль ды іншыя сталіцы, нават тых, хто хацеў бы больш цесна супрацоўнічаць з рэжымам. Таму ніякіх зрухаў чакаць ня варта. Тым больш, што сытуацыя пагаршаецца, зьяўляюцца новыя палітвязьні. Бачна, што сёньня рэжым не гатовы мяняць нешта ўнутры краіны дзеля дыялёгу з ЭЗ."

Эўрапейскі Зьвяз раз за разам выказвае сваю занепакоенасьць сытуацыяй у Беларусі. Брусэль нагадвае Менску абяцаньні спыніць рэпрэсіі. Беларускія ўлады адказваюць на гэта, што трэба бачыць праблемы з правамі чалавека ў краінах ЭЗ. У гэты ж час у Беларусі пачалі саджаць фатографаў ды рыэлтараў па палітычных справах.

ЛОНДАНСКАЯ АЛІМПІЯДА

# "МЫ СКОЧВАЕМСЯ НА ЎЗРОВЕНЬ ДРУГОГА СВЕТУ"

ЛІДАР РУХУ «ЗА СВАБОДУ» АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ НЕ БАЧЫЦЬ НЕЧАГА ДЗІЎНАГА Ў ТЫМ, ШТО ЛУКАШЭНКА НЯ ЗМОГ ТРАПІЦЬ У ЛОНДАН.

«Паколькі ўезд у Эўропу забаронены, а Вялікабрытанія ўваходзіць у ЭЗ, то проста рэалізавалася тое, пра што гаварылі эўрапейскія палітыкі з Брусэлю. І нягледзячы на тое, што Лукашэнка – прэзыдэнт беларускага НАК, гэта не дапамагло. Мне вельмі шкада,што Беларусь ня можа быць паўнавартаснай сярод эўрапейскіх краінаў. І гэта мае наступствы – эканамічныя праблемы ў стасунках з ЭЗ. Мы скочваемся на ўзровень другога сьвету, што мне вельмі балюча. Лукашэнка, можа, і сам перажывае. Але мне баліць за краіну», – пракаментаваў Радыё Свабода сітуацыю

**Аляксандар Мілінкевіч.**

ЖЫЦЦЁ Ў РЭГІЁНАХ

# ЧАМУ ЛЮДЗІ СТРАЙКУЮЦЬ?

СЯРЭДНІ ЗАРОБАК ПАСТУПОВА РУХАЕЦЦА ДА АДЗНАКІ 500 ДАЛЯРАЎ, АДНАК, ЯК І ПАПЯРЭДЖВАЎ МІНІСТР ФІНАНСАЎ БЕЛАРУСІ, АТРЫМЛІВАЦЬ ЯГО БУДУЦЬ ДАЛЁКА НЕ ЎСЁ. ТРЫ ЧВЭРЦІ АРГАНІЗАЦЫЙ, ЯКІХ ЎЛІЧВАЕ АФІЦЫЙНАЯ СТАТЫСТЫКА, МАЮЦЬ ЗАРОБАК ДА 3 МЛН. РУБЛЁЎ. НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНАЯ ЗАРПЛАТА Ў РЭГІЁНАХ - 2-2,5 МЛН. РУБЛЁЎ. НЕВЫСОКІЯ ЗАРОБКІ СТАНОВЯЦЦА ПАДСТАВАЙ ДЛЯ ХВАЛЯВАННЯЎ У ПРАЦОЎНЫХ КАЛЕКТЫВАХ.

### «Як можна жыць на 1,8 млн. рублёў у месяц?»

На прадпрыемстве «Гроднажылбуд» рабочыя на мінулым тыдні наладзілі страйк, выказваючы тым самым незадаволенасць нізкім узроўнем аплаты працы. У адміністрацыі прадпрыемства (а таксама ў прафкаме) сітуацыю па тэлефоне каментаваць адмовіліся. Разам з тым, карэспандэнту БелаПАН ўдалося знайсці двух супрацоўнікаў прадпрыемства, якія пацвердзілі факт забастоўкі і растлумачылі яе прычыны.

«У страйку прымала ўдзел 200 чалавек», - паведаміў БелаПАН грузчык гарадзенскага прадпрыемства. Удзельнікі акцыі пратэсту настойвалі на павышэнні заработнай платы. Работнікі гродзенскага прадпрыемства распавядаюць, што існуючая зарплата не дазваляе нармальна жыць.

«Як можна жыць на 1,8 млн. рублёў у месяц? Як за такую зарплату можна сям'ю пракарміць і крэдыты выплачваць? », - Здзіўляецца работнік« Гроднажылбуда».

Раней на гарадзенскім прадпрыемстве ўжо ўздымалася пытанне аб заработнай плаце. Працоўныя паведамілі БелаПАН, што месяц таму спрабаваў страйкаваць арматурны цэх. Тады рабочым паабяцалі зарплату падняць, аднак гэтага так і не адбылося. «Яны вось зараз не атрымалі (обещанную. - БелаПАН) заробак, і пайшлі страйкаваць», - распавядае супрацоўнік гродзенскага прадпрыемства, каментуючы пятніцкія падзеі.

Незадаволенасці рабочых у Гродна не здаюцца дзіўнымі, калі ўлічыць той узровень заробкаў, які прапануецца сёння ў рэгіёнах.

Паказальная ў гэтым сэнсе статыстыка аб вакансіях у абласных цэнтрах. Брэсцкі аблвыканкам, да прыкладу, прапануе сёння каля 4000 вакансій. У пераважнай большасці выпадкаў (3500 вакансій) прэтэндэнтам прапануецца зарплата да 2,5 млн. рублёў, што эквівалентна 300 далярам. Знайсці працу з сярэдняй зарплатай (у траўні яна складала 3,6 млн. рублёў) у Брэсцкай вобласці вельмі складана. Толькі каля ста вакансій з вышэйназваных 4000 прапануюць зарплату, якая адпавядае або перавышае сярэднюю па краіне.

«Працаўнікі ліцейных цэхаў Брэсцкага машынабудаўнічага завода, якія па ідэі павінны быць высокааплатнымі спецыялістамі, зарабляюць сёння каля 2,6-2,7 млн. рублёў», - кажа старшыня Брэсцкай абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага Валянцін Лазарэнкаў. У брэсцкай гандлі, адзначае ён, зарплаты яшчэ ніжэй - касірам прапануецца 1,5 млн. рублёў у месяц. «Пры сённяшніх цэнах заробак любога працоўнага павінна пачынацца з трох мільёнаў рублёў», - перакананы Лазарэнкаў.

З улікам невысокай зарплаты, якая склалася ў рэгіёнах, карыстаюцца попытам прапановы аб працаўладкаванні ў Расіі. Праўда, «сацыяльны пакет» такога працаўладкавання вельмі своеасаблівы. «На слупах у Гродне з'явіліся аб'явы аб працаўладкаванні ў Расіі токараў, фрэзероўшчыкаў, наладчыкаў. Прапануецца: 11-гадзінны працоўны дзень, шасцідзённы працоўны тыдзень, абяцаная зарплата - ад 10 млн. да 20 млн. рублёў у месяц », - распавядае актывіст незалежнага прафсаюзнага руху Анатоль Хацько.

Нягледзячы на тое, што ў дадзеным выпадку адкрыта парушаюцца нормы працоўнага заканадаўства, прапанова расійскага працадаўцы будзе запатрабавана беларускімі рабочымі, мяркуе Хацько. «Людзі ўсё, што могуць, зробяць, каб нейкую капейку зарабіць», - кажа актывіст прафсаюзнага руху.

### Рызыка павышэння зарплаты на Радзіме

З улікам розніцы ў заработнай плаце, падставы для адтоку кадраў з Беларусі за мяжу існуюць. Па апошніх дадзеных, якія прыводзіць статкамітэт СНД, у траўні 2012 сярэдняя зарплата (у эквіваленце) у Расіі складала 850 даляраў, у Казахстане - 660 даляраў, у Азербайджане - 483 даляра, у Беларусі - 435 даляраў.

Беларускі ўрад, памятаючы пра магчымыя наступствы неабдуманага росту заробкаў, паспяшалася праз тры дні пасля заявы прэзідэнта, удакладніць, якая палітыка будзе праводзіцца ў дачыненні да даходаў насельніцтва. «Калі мы гаворым аб зарплаце, эквівалентнай 500 далярам, трэба разумець, што мы кажам аб сярэдняй велічыні ... Гэта не значыць, што кожны працаўнік да канца года атрымае эквівалент 500 даляраў», - растлумачыў міністр фінансаў Андрэй Харкавец, адказваючы ў другой палове чэрвеня на пытанні журналістаў.

Старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук, каментуючы планы павышэння заробкаў, адзначае, што беларускія ўлады, вобразна кажучы, апынуліся сёння паміж Сцылай і Харыбдай. «З аднаго боку, існуе крайняя неабходнасць павышэння заробкаў. А з іншага боку, рэальных магчымасцяў для павышэння заробкаў сёння вельмі мала. Шлях, які прадугледжвае апярэджанне росту заробкаў над ростам прадукцыйнасці, можа спрацаваць падзеі 2011 года », - мяркуе Ярашук.

Улічваючы гэтыя рызыкі, дадае ён, міжнародныя назіральнікі не падтрымліваюць планы афіцыйнага Мінска па павышэнню заробкаў. «Падчас ліпеньскага візіту прадстаўнікоў МВФ у Мінск яны прама, сустракаючыся з намі, сказалі, што заявы кіраўніцтва краіны аб давядзенні зарплаты да канца года да 500 даляраў перакрэсліваюць магчымасць будучага супрацоўніцтва фонду з Беларуссю», - рэзюмаваў Ярашук.

**Дзмітрый Заяц, naviny.by.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку 29.07.2012 у 22.10.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.